№ 117 (469)

Чацвер, 2 ліпеня 1998 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 3000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.



*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

| Сонца | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 4.20 | 21.43 |
| Магілёў | 4.28 | 21.34 |
| Гомель | 4.33 | 21.23 |
| Мінск | 4.38 | 21.45 |
| Гродна | 4.55 | 21.59 |
| Брэст | 5.06 | 21.51 |



## Калі верыць афіцыйнаму календару, то заўтра – Дзень Рэспублікі, Дзень Незалежнасці Беларусі, Дзень вызвалення Мінска. Весяліцеся, грамадзяне! Але ведайце, што суверэнітэт краіны, яе будучыня – гэта вам не чарка і шкварка... За вольную і заможную Беларусь трэба яшчэ шмат пазмагацца!



*Беларусь мая родная...*

### Генадзь Карпенка сустрэўся з дэмакратычнай грамадскасцю Глуска

Старшыня Нацыянальнага выканаўчага камітэта Беларусі Генадзь Карпенка наведаў раённы цэнтр Глуск, дзе сустрэўся з мясцовымі прадстаўнікамі дэмакратычнай грамадскасці. Удзельнікі сходу выслухалі выступленне старшыні НВК, у якім ён ахарактарызаваў цяперашнюю эканамічную і палітычную сітуацыю ў дзяржаве. Затым на працягу амаль дзвюх гадзін Г.Карпенка адказваў на шматлікія пытанні прысутных. Удзельнікі сустрэчы выказалі меркаванне, што дэмакратычныя сілы Беларусі павінны дамагацца правядзення чарговых прэзідэнцкіх выбараў у 1999 годзе — менавіта тады, калі заканчваецца пяцігадовы тэрмін з часу абрання першага беларускага прэзідэнта. Яны таксама запатрабавалі ад дэмакратаў вылучыць адзінага кандыдата, спыніць міжпартыйны разлад і разам ісці да адзінай мэты.

**Уладзімір ГЛОД, БелаПАН.**

Эхо

### Решение бобруйских властей считаем позорным...

Мы, члены Гомельской областной организации жертв политических репрессий, до глубины души обеспокоены решением бобруйских властей, отказавших в сооружении памятника жертвам политических репрессий.

Ведь это не секрет, что сотни тысяч белорусов погибли в годы тоталитарного режима, и их дети и внуки не знают, где могут они почтить их память и положить хоть букет цветов.

Мы солидарны с действиями Анны Мартыновны Бокач, которая много сделала для увековечивания памяти жертв политических репрессий. Решение бобруйских властей считаем позорным, недостойным цивилизованного общества.

**Члены организации:**
**И.Д.КАШКИН,**
**И.А.СЕЛИВАНОВ,**
**М.Л.ГИРИЛОВИЧ,**
**Е.С.ПАРУБСКАЯ,**
**Р.А.БРЕЛЬ,**
**Г.С.КЛИМОВИЧ,**
**А.А.МИЛЕВИЧ**
**И.С.КУШНЕРЕВ.**

Дзякуй!

### Пазбаўленне ад хваробы

Першая палова чэрвеня была надзвычай карысная для 20 дзяцей, якія хварэюць цукровым дыябетам. Беларускі дабрачынны фонд "Дзецям Чарнобыля" арганізаваў для іх двухтыднёвы лагер. Хлопчыкі і дзяўчынкі лячыліся і адпачывалі ў Аксакаўшчыне.

Фонд ужо трэці год запар арганізуе такія вакацыі. Ад звычайных піянерскіх лагераў гэты адрозніваецца тым, што разам з педагогамі за дзецьмі вельмі ўважліва назіраюць медыкі. Яны штодзённа праводзяць заняткі з дзецьмі, на якіх вучаць іх, як падтрымліваць сваё здароўе.

Акрамя таго, хворых дзяцей вучаць плаваць, яны займаюцца даступнымі спартыўнымі гульнямі.

Дыябет, на вялікі жаль, не шкадуе не толькі дарослых, але і дзяцей. Таму ў фондзе "Дзецям Чарнобыля" нават падрыхтавалі спецыяльную праграму "Жыццё з дыябетам". Менавіта ў рамках гэтай праграмы і адбываюцца мерапрыемствы ў Аксакаўшчыне.

**Уладзімір КОТ.**

Газета — чытач

### Святкаваць – не працаваць...

**Шаноўныя сябры!**

**Зноў вымушаны прасіць у Вас прабачэння: наступны нумар "Народнай волі", як і іншых рэспубліканскіх газет, выйдзе толькі ў наступны аўторак. Парушаецца графік не па нашай ініцыятыве, а ў сувязі са святамі, якія адзначае краіна 3 ліпеня. Так супала, што пасля Дня Рэспублікі, Дня вызвалення Мінска — выхадныя, а ў панядзелак паштальёны не змогуць даставіць Вам газеты, паколькі ў ноч з нядзелі не працуюць друкары.**

**Шкада, што так атрымліваецца, але рэдакцыя пастараецца ў далейшым кампенсаваць згубленыя дні больш цікавымі і змястоўнымі нумарамі. А пакуль — да сустрэчы, прыхільнікі "Народнай волі"!**

*Рэдакцыя газеты "Народная воля".*

Чулі?

### "Мірон" наведаў Новаполацк

Зноў "Мірон" напомніў пра сябе. Днямі ён вывесіў бел-чырвона-белы сцяг у самым цэнтры Новаполацка. Людзі з сімпатыяй аднесліся да акцыі невядомага патрыёта.

Улады знялі забаронены сцяг толькі каля адзінаццаці гадзін дня.

**Андрэй МІКАЛАЕЎ.**

На чыстую ваду

## Аб чым, як вулей, гудзяць ды "бурляць" Клімавічы і што ўтойвае палкоўнік міліцыі Міхаіл Лук'янаў

Як і ў любым райцэнтры, ёсць у Клімавічах Т-падобнае перакрыжаванне вуліц, якое, як звычайна, стварае мясцовы парк. Павернеш налева — трапіш да будынка міліцыі, направа — апынешся ў самым што ні на ёсць цэнтры "рая" (раённага горада).

Няцяжка сабе ўявіць стан міліцыянера, які знаходзіўся за рулём службовага аўтамабіля і звярнуў ні налева ці направа, а пачаў коламі "пералічваць" прыступкі лесвіцы, што вядзе да помніка загінуўшым воінам. Але ж гэтым не закончылася. На хуткасці аўто сутыкнулася з дрэвам, якое і перашкодзіла рух па "выбраным" маршруце. Літаральна два метры, дзякуй Богу, не даехаў вадзіцель у міліцэйскіх пагонах да бюста вайскоўца.

Ідучы раніцою на працу клімаўчане горача абмяркоўвалі надзвычайнае здарэнне (паруску: "ЧП") мясцовага маштабу. Шмат каго цікавіла, якія ж меры прыме на гэты раз начальнік раённага аддзела ўнутраных спраў у адносінах да няўдалага вазніцы ў пагонах, які ў дадатак яшчэ і моцна пашкодзіў машыну, на аднаўленне якой патрабуюцца немалыя сродкі. Аднак палкоўнік міліцыі М.Лук'янаў, якому, дарэчы, і чарговае званне ў свой час датэрмінова прысвоілі (ці не за ўдалыя ўкрывацельствы і "прыгожую" статыстыку?), знайшоў выйсце ў "звыклым" стылі. "Спагадлівы" начальнік тэрмінова адправіў у водпуск свайго падначаленага, таемна, каб ад людскіх вачэй далей, арганізаваў рамонт машыны.

Нікога, бадай, не здзівіла, што зноў віноўнікам здарэння стаў добра вядомы ў Клімавічах Пятро Селіванаў, які змог зноў уладкавацца ў міліцыі, прыняты і блаславёны самім начальнікам РАУС. Хаця не так даўно ён, міліцыянер Селіванаў, быў звольнены за страту штатнай міліцэйскай зброі.

"Народная воля" ўжо пісала пра другога выхаванца клімавіцкай міліцыі маньяка-забойцу і гвалтаўніка Хомчанку, якога судзіў выязны абласны суд, адзначыўшы бяздзейнасць начальніка РАУС, да якога два гады назад звярталіся пацярпелыя дачка і маці Гурыновічы, што і зафіксавана ў пратаколе судовага следства.

Аднак умеюць міліцыянеры ў Клімавічах хаваць ад суровага начальніцкага вока непажаданую інфармацыю. А яшчэ яны больш здатныя да маскіроўкі: любое злачынства могуць прадставіць як парушэнне, адхіленне ад нормаў — словам, змякчыць сітуацыю.

Скажам, намеснік начальніка РАУС С.Сапега (шчыра кажучы, я спецыяльна "абыходжу" яго міліцэйскае званне. А раптам, пакуль пішуцца гэтыя радкі, яго шэф палкоўнік міліцыі М.Лук'янаў праявіў клопат і напісаў хадайніцтва аб датэрміновым прысваенні чарговага звання) таксама не горшы тактык. Аднойчы ён без усялякай патрэбы вырашыў пабываць у радыяцыйнай зоне. І там, у в.Савінічы, пры загадкавых абставінах загінуў работнік міліцыі, які знаходзіўся разам з Сапегам. Патлумачылі гэта "няшчасным выпадкам". А хто панясе адказнасць за гэта?

Альбо яшчэ выпадак. Загінуў памочнік пракурора Д.Паўлаў. І таксама ніхто не панёс адказнасці.

Пасля трансляцыі па тэлебачанні выступлення міністра ўнутраных спраў генерал-маёра В.Агальца на чэрвеньскай пашыранай службовай нарадзе з удзелам кіраўнікоў і намеснікаў начальнікаў РАУС адзін сумленны грамадзянін з Клімавіч асабіста даставіў у прыёмную Валянціна Сцяпанавіча ліст, у якім я прачытаў радкі: "Народ усё бачыць... І той, хто імкнецца схаваць, сакрыць злачынствы, мабыць, не разумее, што становіцца на злачынны шлях. У адрозненне ад Клімавіч, дзе таксама любяць пікнікі і калектыўныя вылазкі на прыроду, у Магілёве, калі загінулі работнікі міліцыі, былі прыняты належныя меры. Шмат каго паздымалі, а каго і папярэдзілі. Чаму ў нас Лук'янаву ды Сапегу ўсё сыходзіць з рук?"

І людзі ў Клімавічах, маўляў, церпяць, бо яшчэ спадзяюцца на справядлівасць, якая павінна наступіць.

Вельмі кранулі жыхара з Клімавічаў словы міністра, што ёсць яшчэ нямала начальнікаў РАУС, да якіх не дагрукацца радавому грамадзяніну, і ўмеюць тыя, як слушна заўважыў міністр, хіба што "рыкнуць, крыкнуць ды пальцам пнуць".

Выходзіць, у курсе Валянцін Сцяпанавіч аб стане спраў у "родным каралеўстве" (чытайце: ведамстве). А што ў Клімавічах творацца не зусім добрыя справы — ні ў каго сумненняў не выклікае. Інакш людзі не ехалі б за свой кошт у Мінск да самога міністра шукаць праўды.

**Віктар СВІРКО.**

Так и сказал

*Клаус Кинкель,*
*министр иностранных дел ФРГ:*

### "Своим поведением президент Лукашенко ведет страну все дальше в изоляцию"

"Образ действия белорусского руководителя совершенно непонятен. Своим поведением президент Лукашенко ведет страну все дальше в изоляцию. После того, как в прошлом году министры иностранных дел Европейского Союза приостановили все политические отношения с Беларусью на высшем уровне, белорусское правительство обрывает своим противоречащим нормам международного права поведением дипломатический диалог. Поведение Беларуси в вопросе с резиденциями является беспрецедентным в истории дипломатии: оно нарушает не только международное право, но и договорное право, поскольку заключенный договор аренды резиденции германского посла имеет срок действия до 2002 года. Президент Лукашенко должен видеть, что подобным поведением он окончательно ведет свою страну в тупик. Федеральное правительство одним из первых признало независимость Беларуси и открыло в Минске посольство. Мы делали все, чтобы по возможности помогать стране на ее нелегком пути. Поэтому поведение белорусского правительства явилось для нас глубоким разочарованием. Нынешние действия руководства в Минске сводят "на нет" эти многолетние усилия и противоречат политике партнерства и сотрудничества, которую мы старались постоянно проводить и в отношениях с Беларусью".

Так отреагировал федеральный министр иностранных дел ФРГ К.Кинкель на предпринятые белорусскими властями принудительные меры, сделавшие невозможным дальнейшее пребывание послов в Дроздах. Эти меры, считает немецкая сторона, находятся в явном противоречии с международным правом и с заключенными с белорусским правительством договорами. Кроме того, они нарушают данное 17 июня министром иностранных дел И.Антоновичем заверение, согласно которому проведение ремонтных работ не повлияет на жизнеспособность резиденций.

Громкое дело

## Над депутатом Андреем Климовым продолжают издеваться

Сообщение "Народной воли" о выделении находящемуся в СИЗО Андрею Климову спального места, к сожалению, не соответствует действительности. Данного депутата парламента без предъявления доказательств совершения преступления держат за решеткой уже пятый месяц. Все это время над ним морально и физически издеваются. Последние два месяца парламентарию не дают спать по ночам. Андрей Климов в знак протеста против произвола дважды объявлял голодовку. И, как сообщалось в печати, администрация пошла на уступки.

Увы... Люди в милицейских погонах оказались, мягко говоря, не совсем порядочными. Перед прокурорской проверкой депутату койку выделили. И потому на вопрос прокурора Андрей Евгеньевич ответил, что претензий по поводу постели к администрации СИЗО больше не имеет. Но как только прокурор покинул территорию тюрьмы, койку отобрали, а в камеру вернули четвертого арестанта. Все возвратилось на круги своя.

Я лично считаю, что следователь, милицейский полковник Кужель, издевается не только над подследственным, но и над его родными. Не имея на то оснований, запрещает родственникам свидания. Не возвращает неправомерно изъятые у жены депутата вещи.

Однако хочу напомнить сему милицейском полковнику, что нынешний режим, как и любой другой, не вечен. И за преступные деяния, попирающие права человека, наступит ответственность.

**Валерий ЩУКИН,**
**секретарь парламентской комиссии по национальной безопасности, обороне и борьбе с преступностью.**

### Эпіграмы

#### Прэзумпцыя невінаватасці

Калі ў судзейскай прадузятасці
Загад — асноўны элемент,
То прэзумпцыя невінаватасці
Не вельмі важны аргумент.

#### Свабода слова

Там, дзе цэнзура не дае
Магчымасць выступу ў газеце,
Сёй-той выказванні свае
Малюе фарбай на клазеце...

#### Ахвяры барацьбы

То барацьба за ураджай,
То за саюз ці за ідэі,
Выходзіць, як ні разважай,
На мірны лёс няма надзеі...

#### Пайшло ўсё задам дагары

Пайшло ўсё задам дагары,
Часы такія настаюць,
Што і сабакі на двары
Гаспадароў не пазнаюць...

#### Ананім

Каб не пазналі, ананім
Мяняе часта псеўданім.
Але змяю і ў новай скуры
Пазнаць няцяжка па натуры...

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ.**

Стоп-кадр



Парламентская солидарность — сильнее диктатуры. В этом убеждены руководитель верхней палаты польского парламента, маршалак сената Алиция Гжесковяк и заместитель председателя комиссии по международным делам Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Анатолий Лебедько.

Июнь 1998 года. Официальный визит делегации Верховного Совета в Республику Польша.

Крымінал

### Чортава возера і яго тайны

У Гродне раскрыта адно з самых загадкавых і гучных забойстваў, якое расследавалі лепшыя спецыялісты крымінальнага вышуку.

У канцы красавіка на Чортавым возеры, якое знаходзіцца за два дзесяткі кіламетраў ад абласнога цэнтра, знайшлі труп маладога мужчыны. Шматлікія траўмы і сінякі на галаве і целе, а таксама звязаныя ногі, да якіх была прымацавана цяжкая гіра, сведчылі аб тым, што незнаёмага спачатку забілі, а потым утапілі.

У ходзе расследавання ўстаноўлена, што загінуў 37-гадовы П. з Гродна, раней судзімы. Маючы некалькі сужыцелек, ён перыядычна пазычаў у іх грошы, аддаваць якія не збіраўся. І тады адна з іх звярнулася да знаёмых з просьбай "паўплываць" на даўжніка. Чацвёра хлопцаў так і зрабілі. Запрасіўшы П. у прыватны гараж, яны збілі яго, а потым, зачыніўшы на замок, паабяцалі вярнуцца праз некаторы час. Калі прыйшлі, П. быў мёртвы. Каб замесці сляды, прывезлі труп да возера, звязалі ногі, прымацавалі да іх гіру і кінулі ў ваду.

Як паведамілі карэспандэнту БелТА ў аддзеле крымінальнага вышуку УУС аблвыканкама, усе чацвёра злачынцаў і іх саўдзельніца арыштаваны і ў хуткім часе паўстануць перад судом.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БелТА.**

### Будуць уведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў па сацыяльных пытаннях і інфармацыйна-прапагандысцкай рабоце

Згодна з рашэннем Гомельскага аблвыканкама, у бліжэйшыя 1,5 года на прадпрыемствах з колькасцю больш чым 300 працуючых, а ў сельскіх гаспадарках — больш за 150 працуючых, будуць уведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў па сацыяльных пытаннях і інфармацыйна-прапагандысцкай рабоце.

"Першай ластаўкай" павінен стаць Калінкавіцкі раён, па якім, відаць, у якасці ўзору было прынята асобнае рашэнне.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

### Надвор'е

2 і 3 ліпеня на тэрыторыі рэспублікі воблачна з праясненнямі, месцамі, пераважна па паўднёвай палавіне рэспублікі, пройдуць дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ўначы — +9...+14, удзень — +17...+22.

# Последняя дань

Более 56 лет была безызвестной могила 14 немецких солдат, что погибли в середине августа 1941 года близ деревни Перевичи Жлобинского района. Там же, на окраине деревни, они и были похоронены. Среди этих погибших солдат был и немецкий капеллан Иохим Айзенберг.

Получив похоронку с подробнейшим описанием места захоронения, вдова Иохима Айзенберга Розмари приняла монашеский сан и до сих пор ухаживает за тяжелыми онкологическими больными в госпитале города Ротенбург. Этот госпиталь уже 6 лет поддерживает дружеские связи с клиникой Научно-исследовательского клинического института радиационной медицины и эндокринологии.

В одну из поездок по обмену опытом к заведующему отделением лучевой диагностики Вадиму Петухову подошла 83-летняя Розмари Айзенберг и, передав ему небольшой крест, попросила установить его на месте захоронения ее мужа и его боевых товарищей. Просьбу вдовы немецкого солдата в Беларуси выполнили.

**На снимке:** *заведующий отделением лучевой диагностики клиники Научно-исследовательского клинического института радиационной медицины и эндокринологии Вадим Петухов устанавливает крест немецким солдатам, погибшим в 1941 году.*

# Коттедж Ярослава Евдокимова: по слухам и на самом деле

Старый знакомый, делясь впечатлениями о своем новом рабочем месте, рассказал, что нынче бригада его коллег-строителей занимается возведением в Ждановичах роскошного коттеджа. И что хозяин будущего особняка не скупится не только на гонорары рабочим, но и практически на ежедневные хлебосольные угощения. Естественно, после утомительного трудового дня, подогретый уже не первым бокалом пива, знакомый скромно козырнул и именем щедрого господина — Ярослав Евдокимов.

Удивленная услышанным, я лично решила спросить Ярослава Александровича о новом загородном особняке...

К моему сожалению, напроситься к певцу на новоселье не удалось. Потому как, по словам Евдокимова, никакого особняка нет и в помине.

— Зачем отягощать себя недвижимостью? У меня есть две хорошие квартиры — в Москве и Минске. К тому же если бы я на самом деле вознамерился что-либо построить, то скорее всего это была бы рубленая баня... А вообще обзаводиться особняком лучше всего на Кипре или в Испании. Но у меня пока нет ни времени, ни желания всем этим заниматься...

**Марина КОКТЫШ.**

# Толькі 15 працэнтаў апытаных сацыёлагамі юнакоў і дзяўчат Мінска ў крытычнай сітуацыі разлічваюць на абарону праваахоўных органаў (міліцыі, суда, пракуратуры)

Падчас зандажу грамадскай думкі, праведзенага Мінскім навукова-даследчым інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем (НДІСЭПП) у чэрвені гэтага года ў сталіцы рэспублікі, увазе 1800 юнакоў і дзяўчат да 30 гадоў было прапанавана пытанне: "Ці даводзілася вам быць ахвярай насілля?".

Большасць рэспандэнтаў — 79 працэнтаў — адказалі, што "не". 9 працэнтаў апытаных маладых мінчан былі ахвярамі насілля; 12 працэнтаў не змаглі адказаць. Кожны другі (50 працэнтаў) з адказаўшых на пытанне "На чыю абарону вы разлічваеце ў крытычнай сітуацыі?" указаў на сваю кампанію, дапамогу сяброў. 41 працэнт апытаных спадзяюцца на дапамогу бацькоў, родных. Кожны трэці ўпэўнены, што зможа абараніць сябе сам (37 працэнтаў) або пастараецца пазбегнуць небяспекі (36 працэнтаў). А 19 працэнтаў праанкетаваных мінчан спадзяюцца на абарону Бога.

На дзеянні праваахоўных органаў (міліцыя, суд, пракуратура) разлічваюць 15 працэнтаў рэспандэнтаў. Кожны дзесяты (11 працэнтаў) не спадзяюцца ні на чыю дапамогу. І толькі 2 працэнты апытаных юнакоў і дзяўчат беларускай сталіцы разлічваюць у крытычнай сітуацыі на дапамогу сродкаў масавай інфармацыі.

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ, БелаПАН.**

# З пачатку чэрвеня курс долара ў абменных пунктах камерцыйных банкаў краіны ўзрос амаль на 10 працэнтаў

На мінулым тыдні (22—28 чэрвеня) курс долара ЗША ў дачыненні да беларускага рубля ўзрос на ўсіх сегментах валютнага рынку, за выключэннем пазабіржавага. Лідэрам росту аказаўся курс долара ў абменных пунктах камерцыйных банкаў. За тыдзень ён узрос у сярэднім на 6,2 працэнта (з 48.500/49.300 — 49.500 да 50.000 — 54.000/55.000 рублёў).

На "чорным" рынку наяўнай валюты ў Мінску каціроўка амерыканскай валюты павысілася на 2,2 працэнта (з 57.000 — 58.000 да 58.000 — 59.500 рублёў); пры гэтым у сярэдзіне тыдня курс продажу дасягаў адзнакі 60.000 рублёў, а ў панядзелак, 29 чэрвеня, узрос да 61.000 рублёў.

На мінскай Міжбанкаўскай валютнай біржы долар падаражэў за тыдзень на 1,5 працэнта (з 36.840 да 37.400 рублёў), нямецкая марка — на 1,2 працэнта (з 20.550 да 20.800 рублёў), расійскі рубель — на 1,4 працэнта (з 5.920 да 6.000 рублёў), украінская грыўна — на 0,3 працэнта (з 33.700 да 33.800 рублёў).

На пазабіржавым рынку курс долара да безнаяўнага беларускага рубля панізіўся за тыдзень на 1,1 працэнта (з 66.500 — 68.500 да 65.500 — 68.000 рублёў). Разрыў паміж пазабіржавым і біржавым безнаяўнымі курсамі долара зменшыўся за тыдзень з 83,2 да 78,5 працэнта, паміж "чорным" і банкаўскім наяўнымі курсамі — з 16,9 да 12,4 працэнта.

З пачатку месяца біржавы курс долара ўзрос на 4,4 працэнта, "чорны" наяўны — на 4,9 працэнта, банкаўскі наяўны — на 9,8 працэнта, пазабіржавы безнаяўны не змяніўся.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**Рэзананс**

***Нядаўна "Народная воля" (№108, 16 чэрвеня 1998 г.) пісала пра арышт і знаходжанне пад следствам епіскапа Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай (Народнай) Царквы Пятра Гушчы і друкавала яго ліст з-за кратаў.***

***У грамадскасці гэты факт выклікаў розныя тлумачэнні і меркаванні. У рэдакцыю газеты пачалі паступаць водгукі, заявы, рэзалюцыі-пратэсты як вернікаў гэтай царквы, так і яе прыхільнікаў у Беларусі і па-за межамі нашай Бацькаўшчыны.***

***"Народная воля" ні ў якім разе не мае намеру ўмешвацца ў ход следства па справе Пятра Гушчы. Гэта не функцыя прэсы. Але старонкі "Народнай волі" даступны для ўсіх. Сёння ў газеце выказваюць свае думкі тыя, хто добра ведаў епіскапа Гушчу. З такой жа гатоўнасцю "Народная воля" прадаставіць месца і для альтэрнатыўнага меркавання.***

## Пётр Гушча — сапраўдны пастыр Божы. Дапамажыце яму!

Шаноўная рэдакцыя!

Мы, вернікі і жыхары вёсак Сёмкаў Гарадок, Чучаны, Сямкова і іншыя, звяртаемся да Вас за дапамогай і просім надрукаваць наш ліст у абарону епіскапа Пятра Гушчы, які дапамагаў усім нам аднавіць Храм у в. Сёмкаў Гарадок.

Храм у нашай вёсцы прыйшоў у заняпад шмат гадоў таму. Але знайшоўся чалавек, у якога сэрца баліць за Святыню. Гэты сумленны святар першым пачаў працу па аднаўленні Храма. Ён сабраў вернікаў вакол ідэі адбудовы Святыні, якая мае сваю старажытную гісторыю. Людзі з в. Сёмкаў Гарадок і навакольных вёсак на працягу двух гадоў у вольны час выносілі смецце з разваленых пабудоў. Цэглу і камяні, якія ацалелі, складвалі асобна, каб у далейшым іх выкарыстаць, імкнуліся не згубіць ніводнага каменчыка. Было цяжка працаваць, але ў сэрцах людзей жыла надзея, што хутка ў аднаўленых сценах зноў будзе гучаць Божае слова, як і стагоддзі таму.

І заўжды побач з намі быў айцец Пётр Гушча. Ён, як сапраўдны пастыр Божы, сабраў вернікаў і навучыў нас выконваць Закон Божы. Ён паводзіў сябе вельмі тактоўна і карэктна, дапамагаў людзям і словам і справамі, праводзіў набажэнствы каля Храма на беларускай мове. Вяскоўцамі былі сабраны грашовыя сродкі на аднаўленне Храма, ужо закупілі будматэрыялы і думалі ўзяцца за справу па адбудове Аўтакефальнай, сваёй, Народнай Царквы. Здавалася, нашая мара хутка здзейсніцца. Але раптам нечаканая для ўсіх нас справа спынілася. Айца Гушчу арыштавалі і ўзбудзілі супраць яго судовую справу. За гады сумленнай працы мы добра і блізка пазнаёміліся з Пятром Гушчам і паразумеліся. Гэта шчыры, разумны, інтэлігентны, сумленны чалавек і святар, адданы сваёй справе. Айцец Пётр нёс святло Божага Слова ў нашае жыццё. І ніколі яго словы не разыходзіліся са справай.

Мы лічым, што сфабрыкаваная судовая справа пабудавана на хлусні. Айцу Пятру прыдумалі такую ганебную справу толькі за тое, што ён адраджае Беларускую Аўтакефальную Народную Царкву, незалежную ад Маскоўскага патрыярхата. Да гэтай справы, мы ўпэўнены, прычыніліся Філарэт і высокія чыноўнікі.

Мы лічым гэта несправядлівым у адносінах да айца Пятра. Просім Вас дапамагчы разабрацца ў гэтай сітуацыі і разам з намі падтрымаць яго.

**Дубінец, Е.Л.Матусевіч, А.В.Матусевіч, Г.І.Церлюкевіч, І.Е.Церлюкевіч, В.С.Лабецкі, Н.І.Лабецкая, Р.Н.Рудзікава, В.Х.Лобан, Г.Н.Жукоўская, М.І.Міхалкіна, Л.А.Матусевіч, Жукоўская, Жукоўскі, Азёмша, З.М.Шмялёва, Шыдлоўская, Н.Акуліч, Грынцэвіч, Поршнева, Тарасевіч, Раманцаў, Л.Дубінец.**

## Арышт епіскапа — правакацыя супраць Беларускай Праваслаўнай Народнай Царквы

Мы, жыхары горада Слоніма, вернікі і прыхільнікі Беларускай Праваслаўнай Народнай царквы, абураны гвалтоўным захопам у Мінску епіскапа Пятра Гушчы. Уладыка Пётр займаўся духоўнай працай па вяртанні нашага народа да хрысціянскіх каштоўнасцяў. Мы лічым абсурдным прад'яўленае яму абвінавачанне, бо ўсе мы ведаем яго як шчырага, сумленнага і самаахвярнага для хрысціянскай справы чалавека.

Мы заклікаем праваахоўныя органы да неадкладнага вырашэння гэтага непаразумення і патрабуем вызваліць з-пад арышту епіскапа Пятра.

**Іван Бязко, Пятро Жукоўскі, Уладзімір Ліцвін, Уладзімір Бруцкі, Адам Ёрш, Алесь Масюк, Барыс Кучынскі, Мікалай Ракевіч, Аляксандра Ракевіч, Георгій Маскаўчук. Усяго 14 подпісаў.**

## Обращение

Люди доброй воли — встаньте!

Люди всех религий и верований — не молчите!

Молим Вас, помогите нам защитить законные человеческие права епископа Гущи, владыки Белорусской Автокефальной Православной Народной Церкви, находящейся в юрисдикции Всемирного американского патриархата, от покушения на его со стороны правоохранительных органов государственной власти Республики Беларусь.

Еще не поздно нашими активными действиями остановить силы беззакония и не допустить на земле Беларуси расправы над нашим епископом и владыкой.

Наше обращение к Вам, представители мирового сообщества, к Вам, благородные люди, вызвано тем, что все мы, честные представители белорусского народа, онемели и окаменели от возмущения, когда узнали об аресте епископа Гущи.

С Божьей помощью и стараниями своих служителей заботился он о создании Церкви. Именно в это время, когда рабочие-строители уже готовы были подняться на стены восстанавливаемого Храма Рождества Пресвятой Богородицы, именно в это время так называемые правоохранительные органы сфабриковали на епископа Гущу уголовное дело, стремясь остановить это строительство. Таким образом, много людей — детей во Христе — стали сиротами Белорусской Автокефальной Народной Церкви, лишившись духовного пасторства своего епископа и владыки. Они вольно и невольно становятся жертвами бездуховности коварных ловцов человеческих душ и прихожанами других религиозных конфессий. Верующие осиротевшей Церкви с добрым чувством вспоминают бескорыстие, честность, образованность и пасторскую любовь к ним своего владыки, помнят они его всегда нужную и своевременную помощь в своей тяжелой повседневной жизни. Лишив свободы и оклеветав владыку Гущу, власти показали, что для них нет ничего святого, они оскорбили христианские чувства верующих, преступно растоптали их права на свободу вероисповедания.

Люди добрые! Все, кто слышит нас и честен, — помогите нам! Поднимите свой праведный голос в защиту владыки Петра. Для нас недоступны государственные средства массовой информации, чтобы донести правду до широкого общественного мнения. Поэтому не верьте ни одному слову продажных средств массовой информации. Помогите нам своим голосом и законными действиями защитить и спасти для блага христиан честь, достоинство, здоровье и жизнь Петра, нашего духовного пастыря во Христе. Помогите спасти его от преступной расправы, которую готовятся совершить над ним. Разоблачите преступные фабрикации против его чести, достоинства и человеческой порядочности. Не дайте своим молчанием и пассивностью погрузиться в глубину беззакония, откуда уже не будет выхода к честной и порядочной жизни. Своим участием в судьбе владыки Петра, своей правдивой информацией о нем и о деле его жизни, каким является создание на землях нашего Отечества Белорусской Автокефальной Православной Народной Церкви, Вы остановите процесс расправы над ним, заставите власти остановиться перед совершением дьявольского преступления против святого человека.

Ради этого мы молим Вас, люди добрые, пробиваться к правде в этом деле, идти до ее первоисточников, продираться сквозь дебри лжи, которые возвели вокруг этого дела и владыки Петра продажные средства массовой информации. Только от самого владыки Гущи, а также от иерархов Церкви и Комитета по защите владыки Гущи Вы узнаете правду о его святости, высвеченной по всем канонам православного обряда, и о его Божьем деле создания святой христианской Церкви.

**Общественный комитет по защите владыки Петра ГУЩИ.**

**Малайцы!**

# Дапаможаш калгасу – дапаможам табе

Ва ўмовах сённяшняй вострай няхваткі рабочых рук на вёсцы, многага можна дабіцца, калі падысці да людзей па-чалавечы, паклапаціцца аб іх надзённых праблемах і дапамагчы іх вырашыць. Нічога звышнатуральнага не прыдумалі ў калгасе "Савецкая Беларусь" Докшыцкага раёна, а вырашылі пытанне папаўнення кармавой базы для жывёлагадоўлі па-свойму. Дамовіліся з вяскоўцамі вясною, што калі чалавек возьме дагледзець сотак 20 бурачкоў, у сваю чаргу гаспадарка на такой жа плошчы нарыхтуе яму на калгаснай тэхніцы сена для ўласных кароў. У залежнасці ад вырашчанага ўраджаю прадугледжваецца, што восенню за салодкія карэнні гаспадарка разлічыцца зернем, што таксама задавальняе сялян.

Не так шмат часу кіруе гэтай гаспадаркай малады старшыня Сяргей Абірала, але ўжо здолеў дабіцца павагі людской, бо заўсёды чула ставіцца да іх праблем і ва ўсім стараецца дапамагчы. Вось і зараз, хоць доўгі час ішлі дажджы, вяскоўцы асабліва не хвалююцца, бо ведаюць: з сенам яны абавязкова будуць.

**Уладзімір ШЫК.**

**Поздравляем!**

# БАЖ поощрила автора "Народной воли"

Центр правовой защиты СМИ при Белорусской ассоциации журналистов отметил большой вклад внештатного корреспондента газеты "Народная воля", депутата легитимного Верховного Совета Республики Беларусь Валерия Щукина в отстаивании принципов законности, соблюдения прав человека, пропаганде правовых начал в государственной жизни и наградил его ценным подарком — комплектом юридической литературы, среди которой — наиболее употребляемые законодательные акты Республики Беларусь: Кодекс об административных правонарушениях, Гражданский процессуальный кодекс, Уголовный кодекс, Уголовно-процессуальный кодекс.

Редакция "Народной воли" присоединяется к поздравлениям и желает Валерию Алексеевичу неиссякаемой энергии в деле утверждения в Беларуси принципов демократического правового государства! Так держать, коллега!

**Василий БАЗЫЛЬ.**

# Как побыстрее уехать отсюда?

## Горькое письмо и невеселые рассуждения

Добрый день, "Народная воля"!

*Читаю тебя с 1995 года. Остаюсь твоим читателем до сих пор — очень уж ты все правильно пишешь.*

*Волей судьбы мы живем здесь с 1992 года, переехав из Латвии. Думали — навсегда. Построили свой дом, обжились. Но вскоре поняли, что лучше нам побыстрее уехать отсюда. Причина? Наше будущее, будущее нашего ребенка.*

*Страшно жить в стране, где нет уверенности, что ты не окажешься за решеткой. Хочу ребенку дать шанс жить в нормальной стране.*

*Я — немка, муж мой — белорус из Гомеля. Постоянно слежу за всеми публикациями о Германии. Хочу побольше узнать об этой стране. Какие условия там для этнических немцев, каковы условия для выезда? Я думаю, что это интересует не одну меня. Пожалуйста, ответьте через газету, ибо очень трудно получить такого рода информацию.*

*О себе: мне 40 лет, работаю медсестрой в больнице. Мужу 37 лет, строитель, золотые руки.*

*Пожалуйста, не указывайте мою фамилию, мне еще здесь жить и работать.*

**А.С.**

***

Это далеко не первое такое письмо. Они идут постоянно. И с каждым днем все больше. Этот факт дает самую беспристрастную и страшную оценку нынешнему режиму. Именно такие настроения и такое бегство из страны наблюдались когда-то в Германии с приходом к власти Гитлера.

Уже во многих европейских странах и в США появились политические беженцы из Беларуси. Куда только не переводят свой бизнес деловые люди! Страшные цифры приводит президент Белорусского союза предпринимателей Владимир Карягин. По его сведениям, более 500 белорусских предпринимателей трудятся в Литве, несколько тысяч — в Польше, несколько тысяч — на Украине, десятки тысяч — в России...

Сотни молодых людей ежедневно обивают пороги зарубежных посольств в надежде получить визу на выезд. Тысячи мечтают о том, как побыстрее поменять место жительства. В посольствах ведущих стран, как рентгеном, просвечивают каждого выезжающего из Беларуси в деловую командировку или по приглашению, так как многие из них потом не хотят возвращаться домой. И что может быть для страны позорнее этого?

Уезжают или собирают уехать молодые и талантливые. Они первыми видят беспросветность и чувствуют опасность. К тому же бездарей за границу, тем более в развитые страны, не берут. Берут талантливых и способных, тех, кто уже владеет и языками, и компьютером, и мыслит по-современному... И потому с перегрузкой работают репетиторы иностранных языков, родственники сбрасываются на компьютер своему чаду, чтобы помочь ему овладеть им. Только после этого у него появится шанс вырваться из этого "коммунистического заповедника" и поселиться в нормальной процветающей стране.

Больно смотреть на это. Особенно людям старшего поколения. Разве не защемит сердце, когда твои дети и внуки мечтают об одном — побыстрее уехать из этого "социалистического рая"? Но кто же виноват в этом? Разве не сами люди старшего поколения, которые, проголосовав в 1994 году, по существу, вынудили своих детей бежать из страны?

Но, с другой стороны, только там, в передовых странах, наши дети и внуки смогут наладить нормальную жизнь, сохранить свое белорусское лицо. Меня поразил тот факт, что фирмы, которые занимаются эмиграцией из Беларуси, скажем, в Канаду, как только слышат от претендентов какое-то плохое слово о белорусах или их языке, тут же прекращают всякие дальнейшие связи с ними. Оказывается, люди с такой моралью им не нужны. Канаде нужны из Беларуси белорусы, которые внесли бы в жизнь этой страны колорит своей нации.

Что же касается конкретных пояснений по выезду в Германию, то их лучше получить в Посольстве ФРГ в Беларуси.

**Андрей РУСАКОВИЧ.**

**Зеркало**

# "Майкл" Мясникович колеблется вместе с "линией партии"

Михаила Мясниковича — нынешнего главу Администрации президента Беларуси — за глаза зовут либо сантехником, либо Майклом.

Прозвища, как всем хорошо известно, с потолка не падают. "Сантехник" — это потому, что Михаил Владимирович в свое время отвечал за обширное минское городское, а затем и республиканское жилищно-коммунальное хозяйство. "Майклом" он стал позже, когда его патрон — глава правительства Вячеслав Кебич перевел друга-партийца в свои первые заместители. Именно будучи первым вице-премьером, Михаил Владимирович в силу возложенных на него служебных обязанностей отвечал за денежно-финансовую политику Беларуси. Именно он, а не кто-нибудь другой возглавлял с белорусской стороны переговоры и с Международным валютным фондом, и с Европейским банком реконструкции и развития, и с представителями государств, которые в ту пору еще готовы были оказывать Беларуси финансовую помощь, выделяли кредиты. Именно г-н Мясникович чаще других летал в Нью-Йорк и Лондон, Париж и Бонн, исколесил он и множество других больших городов. И всюду расшаркивался перед Западом.

Если заглянуть в подшивки центральных белорусских газет, особенно с 1991 по 1994 год, к примеру, хотя бы "Советской Белоруссии", то там можно найти множество весьма и весьма любопытных высказываний тогдашнего первого вице-премьера. По его словам, "международные финансовые организации оказывают существенную помощь нашей республике", "Мы чрезвычайно благодарны ряду стран, в частности Германии и США за поддержку нашей экономики" и т.д., и т.п.

В этой связи нельзя не удивляться коренному изменению позиции Михаила Мясниковича, продемонстрированной им во время слушаний по правам человека в нижней палате так называемого Национального собрания на минувшей неделе. Глава Администрации президента обвинил Госдепарламент США в том, что в своем ежегодном докладе о ситуации в Республике Беларусь он использует лишь материалы, предоставленные белорусской оппозицией. Таким образом, заявил глава президентской Администрации, "стратегические цели США заключаются в установлении нового мирового порядка, и в этом плане Государственный департамент установил для себя доминирующее право на ведение политических мониторингов и оказание прямого давления на руководство не только Беларуси, но и других суверенных государств". И это далеко не самое серьезное обвинение.

Речь г-на Мясниковича, подготовленная в духе разгара "холодной войны", уже ничем не напоминала пассажи Майкла, а в точности повторяла идеологические установки секретаря Минского горкома КПБ товарища Мясниковича Михаила Владимировича. И стоит ли здесь удивляться? Ведь ничего нового глава президентской Администрации не изобрел — он как в известном анекдоте лишь "колебался вместе с линией партии". Подует вскоре ветер перемен, и можно не сомневаться — "сантехник" тут же напомнит, что его зовут еще и Майклом.

**Владимир ГЛОД.**

**Взгляд**

*Сергей ВАГАНОВ*

# Смертельный поводок

Недавно ОРТ показало документальный фильм-расследование "Гибель Машерова. Заговор или злой рок?".

Скажу сразу: ничего нового к тому, что уже было известно об обстоятельствах гибели популярного белорусского лидера брежневской эпохи, фильм не добавил. Версия о том, что Машеров стал жертвой заговора со стороны кремлевской верхушки, возникла сразу и поддерживается до сих пор, хотя никаких более или менее внятных доказательств за почти восемнадцать лет после трагедии не добыто. Никто, впрочем, и не занимался поиском подобных доказательств — версия заговора никогда не рассматривалась всерьез, никогда не являлась предметом скрупулезного уголовного расследования. Слишком явными были достаточно "заурядные", если так можно сказать, обстоятельства автокатастрофы, каких, к сожалению, на наших дорогах случается очень много.

Тем не менее фильму, который возвращается к личности Машерова и к теме заговора, зрительский интерес гарантирован. Во всяком случае у нас в Беларуси, недавно отметившей 80-летие Машерова. И снова вспоминали, как и почему он погиб. Этому вполне объяснимому интересу фильм отвечает в полной мере еще и потому, что впервые мы смогли увидеть и услышать людей, имевших непосредственное отношение к трагедии и ее расследованию. Но, повторяю, за исключением ранее неизвестных или подзабытых подробностей достаточно давней истории, ничего нового к случившемуся с Машеровым ни водитель злосчастного грузовика, ни следователь, ни дочь Петра Мироновича не добавляют. Добавляет автор, выдвигая версию, точнее, соображение о том, что заговор, имевший целью не допустить Машерова к высокому, союзного предсовмина, кремлевскому креслу, мог быть как бы растянутым во времени. "Заговорщики", мол, вполне могли быть осведомлены о достаточно беспечном отношении белорусского лидера к скорости и собственной безопасности. И только ждали момента, когда их коварный замысел совместится с реальностью. То есть заговор, этакий перманентный заговор, все же был, а исполнить его надлежало фатально неизбежному Случаю. Злому року, как начертано в названии фильма.

Такой "роковой" подтекст позволяет сохранять машеровскую трагедию в качестве еще одного "белого пятна" советской истории, снова и снова возбуждать явно неадекватный к ней интерес, а главное — противопоставлять Машерова кремлевской верхушке не только нравственно, человечески, но и политически, как бы осовременивать его личность, якобы желавшую и бывшую способной в корне и не так, как это произошло, изменить, точнее, улучшить советскую жизнь. Едва ли подобную, далеко не первую попытку, можно назвать корректной и тем более оправданной при отсутствии сколько-нибудь явных исторических, биографических и, главное, документальных доказательств. Их нет. Нет даже свидетельств хоть сколько-нибудь обостренных отношений Машерова с Кремлем на почве политики. Из всего многосказанного и многонаписанного об этих отношениях можно с большей или меньшей уверенностью судить лишь о взаимной неприязни Петра Мироновича с Леонидом Ильичем, некой ревности последнего к его популярности и действительному геройству в годы войны. Не исключено, конечно, что Брежнев не только завидовал Машерову, не любил его, как чаще всего свидетельствуется, но и видел в нем потенциального политического конкурента. Но, согласитесь, при чем здесь заговор со смертельным исходом? Как если бы Машеров всерьез, до подавления корыстных интересов номенклатурной мафии воспрепятствовал партийному разложению. Не думаю, что обычную кремлевскую интригу, когда одна партийная группировка тянула Машерова в Москву, а другая противилась этому, можно считать заговором. Даже хрущевскую эпопею по большому, скажем так, кровавому счету заговором не назовешь. А до заказных убийств мы еще доживем. В те времена, а особенно не так уж задолго до них политические убийства себе подобных "заказывались" от имени народа и предъявлялись народу как его высший суд. Те же, что надолго оставались в тайне, как, например, убийство в Минске Михоэлса, были убийствами далеко не себе подобных...

De mortuis aut bene aut nihil — о мертвых хорошо или ничего...

Увы, история не только капризная, но и жестокая дама. О своих, в нее попавших мертвых она велит говорить только правду и ничего, кроме правды. И если гибель Машерова считать производной от Системы, то лишь потому, что сам он был ее ярким, может быть даже в чем-то выдающимся воплощением. Системы, в которой всякая попытка освободиться от пут тотальной регламентации имеет своим последствием трагедию или драму. Случившееся с Машеровым, если стремиться откопать корень, свидетельствует, по-моему, как раз о такой попытке.

С одной стороны — любовь к скорости, пристрастие к ничем не ограниченной, за рамками общепринятых правил свободе передвижения. С другой — абсолютная зависимость от его регламента и расписания. С одной стороны — вседозволенность власти, позволяющая пренебрегать законами и правилами, в том числе и дорожными. С другой — абсолютная зависимость ее обладателя от правил, норм и канонов, установленных для употребления внутри клана. Если соотнести правила дорожного движения с правилами жизнеустройства вообще, то первые, как ни покажется странным сравнение, в большей степени, чем вторые, могут претендовать на истинный демократизм, когда каждый в своем движении может быть свободен, не ущемляя свободу других. Вот уж где поистине демократия — не вседозволенность. Вседозволенность — это тоталитаризм с его внушаемыми обществу представлениями о Порядке. Но и поводок, который, чем ближе человек к власти, тем более удушающ, а то и смертелен. Убежден: в тоталитарном обществе самый несвободный человек — это обладатель той или иной меры власти. Обладатель абсолютной власти несвободен абсолютно. Машеров был обладателем абсолютной власти. В Беларуси, разумеется. Но психологически, как, собственно, любой мыслящий человек не мог не стремиться к личностной свободе. Его трагедия вызрела на стыке этого парадокса.

Доказательством, для меня, во всяком случае, может служить эпизод, который довелось наблюдать за неделю или полторы до машеровской гибели.

Тогда в Минске проходил Всесоюзный слет пионеров-следопытов — мероприятие тяжелое, на густо замешанном идеологическом вареве, но в чем-то и трогательное, все-таки дети... В тот день, ближе к вечеру, намечался митинг-реквием в Хатыни. По программе, розданной журналистам, участие Машерова не предполагалось, у него, видно, были другие дела.

Выехали мы на редакционной машине часа за два — дорога не быстрая, к тому же чрезвычайно, почти как сейчас, загруженная часом пик. При выезде с боковой улочки на главный проспект мы с Виктором Никитичем, водителем, заметили, как пронеслась, буквально промчалась на огромной скорости машеровская "Чайка" с ним самим, с телефонной трубкой возле уха, на переднем сиденье. Сопровождения не было, и, поехав следом, мы увидели на ведущей в сторону Хатыни улице Якуба Коласа апокалиптическую, без преувеличения, картину. "Чайка" буквально разодрала улицу с ее и без того тромбозным потоком легковушек, трамваев и грузовиков. Машины сгрудились в пробки, трамваи резко тормозили, валя пассажиров в кучу, народ разбегался, а постовая милиция... Да что там! В момент потеряв "Чайку" из виду, мы ехали уже мимо всего случившегося, заметив, как люди откачивали на тротуаре свалившегося от напряжения гаишника.

В Хатынь мы приехали почти через час после Машерова. Я узнал об этом от Виктора Никитича, когда, вернувшись с митинга, услышал от него рассказ о разговоре с Зайцевым, машеровским водителем, с которым Виктор Никитич был знаком с послевоенных времен. Разговорились они на стоянке, и Зайцев, которому было за шестьдесят, говорил о том, как трудно ему стало работать, как донимает его радикулит, как просится он уйти, и Комитет настаивает, но Петр Миронович не отпускает своего партизанского друга: пока, говорит, Женя, буду я, будешь и ты...

— Не представляешь, Виктор, как трудно, когда тебя ведут, — жаловался Зайцев, рассказывая, как теряет он чувство скорости и дороги, когда мчится, не предвидя опасности, за машиной ГАИ, словно на поводке...

Они погибли вместе, это все знают. Зайцев, и это тоже есть в фильме, даже не тормозил. На любимой Машеровым скорости в 150 километров в час...

...Из окна моей рабочей комнаты хорошо виден перекресток с широким, с бесконечным автомобильным потоком, проспектом. Солнечные блики от потока, уже иномарок, не переставая попадают в окно. Время от времени, чуть ли не по нескольку раз в день, раздается душераздирающий вой сирен, к нему моментально добавляется милицейская трель, и можно видеть, как гаишник самоотверженно бросается потоку наперерез, пытаясь с ходу остановить его, что не всегда удается. "Визжат колеса, тормоза, и в суматохе свалочной вперед-назад, вперед-назад указывают палочкой..." Через секунды по проспекту с нарастающим воем проносится бронированный, сверкающий и мигающий кортеж. Гаишник, вытирая вспотевший затылок, уходит на тротуар...

Проспект, который я вижу каждый день из окна, носит имя Машерова.

**Минск.**

